МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ "ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

№3-4 (120)
сакавік-
красавік 2012

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

## У НУМАРЫ:

### БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ ВОЛІ

25 сакавіка беларусы ў розных кутočках свету адзначылі 94-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі – Дзень Волі.

*Працяг на стар. 4*

### У ЛОНДАНЕ АДЗНАЧЫЛІ ТРЫ СВЯТЫ Ў АДНЫМ

Беларусы Вялікабрытаніі адзначылі 24 сакавіка ў Беларускім доме ў Лондане адразу тры святы – Дзень Волі, 65-годдзе заснавання Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі і 70-гадовы юбілей вядомага беларусіста, шматгадовага старшыні Англа-Беларускага таварыства Джыма Дынглі.

*Працяг на стар. 7*

### У ТЭЛЬ-АВІВЕ ПРАЙШОЎ ПЕРШЫ Ў ГІСТОРЫІ ІЗРАІЛЯ БЕЛАРУСКАМОЎНЫ КАНЦЭРТ

Першы ў гісторыі Ізраіля беларускамоўны канцэрт сучаснага беларускага выканаўцы адбыўся 28 сакавіка ў Тэль-Авіве. Зміцер Вайцюшкевіч правёў у клубе "ПраРок" кватэрнік, выканаўшы свае найлепшыя песні.

*Працяг на стар. 7*

### У ВЕНЕ ПАЧАЛІСЯ БЕЛАРУСКІЯ НАБАЖЭНСТВЫ

У сталіцы Аўстрыі па просьбе мясцовых беларусаў архібіскуп Вены, кардынал Хрыстафор Шонбэрн заснаваў беларускае грэка-каталіцкае душпастырства ў гонар Хрыста Чалавекалюбцы. Першыя беларускія набажэнствы адбыліся на пачатку сакавіка.

*Працяг на стар. 7*

НАВІНЫ МГА "ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА"

# "Бацькаўшчына" заклікае абараніць гонар і годнасць беларусаў Прыбайкалля

Управа МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" выказвае вялікую занепакоенасць з нагоды крымінальнага пераследу Моладзевага клуба "Крывічы" пры Іркуцкім таварыстве беларускай культуры імя Яна Чэрскага і яго старшыні Алега Рудакова і звяртаецца па дапамогу ў адстойванні яго гонару і годнасці да беларусаў свету.




Як стала вядома, Следчае ўпраўленне Следчага камітэта Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці з падтрымкай СОБРа і спецназа 12 красавіка каля 8.20 уварваліся ў масках і з аўтаматамі ў кватэру старшыні Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алега Рудакова і на сядзібу Таварыства.

Па інфармацыі Алега Рудакова, супрацоўнікамі праваахоўных органаў у яго на кватэры былі канфіскаваны 2 камп'ютары, ноўтбук і некаторыя кнігі, у тым ліку "Кто есть кто в Великой Отечественной войне" на рускай мове. На сядзібе ІТБК былі канфіскаваныя: кніга "Антыбальшавіцкія паўстаньні на Беларусі", пяць каляндарыкаў з вывамі вайскоўцаў БНР і БКА, а таксама невядома кім пакінутая кніжачка па саенталогіі і тры нумары газеты "Наследие предков" за 2004 год.

Алегу Рудакову прад'явілі Пастанаўленне аб вобшуку, дзе было сказана, што заведзена крымінальная справа, у якой ён фігуруе як лідар "экстрэміцкай групоўкі "Моладзевы клуб "Крывічы". Ксеракопію з Пастанаўлення зняць не дазволілі. "У Пастанаўленні аб вобшуку напісана, што я з'яўляюся духоўным лідарам гэтай групоўкі, што я "выбудаваў жорсткую іерархію і беспярэчнае падпарадкаванне мне як лідару, што я выкладаю баявыя віды барацьбы і забараняю ў межах групоўкі размаўляць на рускай мове і шмат чаго яшчэ, што, безумоўна, лухта", – паведаміў Алег Рудакоў.

Такія неадэкватныя дзеянні былі выкліканыя тым, што праваахоўныя органы Іркуцка завялі крымінальную справу аб экстрэмізме супраць беларуса Аляксея Кухты, актывіста моладзевага клуба "Крывічы", створанага пры Іркуцкім таварыстве беларускай культуры. Аляксею Кухту выставілі абвінавачанне паводле артыкула "Узбуджэнне нянавісці альбо варожасці, а таксама знявага чалавечай годнасці". Па інфармацыі Алега Рудакова, Аляксей Кухта размясціў на сваёй асабістай старонцы ў сацыяльнай сетцы "ВКонтакте" прафашысцкія і антысеміцкія выказванні і фотаздымкі. Таксама ён з'яўляецца мадэратарам старонкі моладзевага клуба «Крывічы» "ВКонтакте". Там ён размясціў фільм "Беларускі рэзістанс" і фота дзеячаў БКА. Ён зрабіў гэта па ўласнай ініцыятыве, не папярэдзіўшы пра гэта Алега Рудакова. На думку апошняга, выглядае на тое, што Следчы камітэт

➲

і Аддзел па экстрэмізме вырашылі выслужыцца.

У сувязі з гэтай крымінальнай справай былі праведзены ператрусы ў кватэры старшыні Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага Алега Рудакова і на сядзібе Таварыства.

Спроба прыцягнуць Алега Рудакова да крымінальнай адказнасці як лідара "экстрэміцкай групоўкі "Моладзевы клуб "Крывічы" выглядае абсалютна неабгрунтаванай і нават абсурднай. Ужо больш за 15 год Алег Рудакоў нястомна працуе на ніве папулярызацы беларускай культуры ў Прыбайкаллі. Яго імя добра вядомае беларусам ва ўсім свеце. Мерапрыемствы, якія праводзяцца ІТБК і моладзевым клубам "Крывічы" з'яўляюцца адкрытымі. На іх прысутнічаюць людзі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, прадстаўнікі органаў улады і СМІ. Відэарэпартажы пра дзейнасць Таварыства рэгулярна паказваюць па мясцовых тэлеканалах.

Алег Рудакоў узнагароджаны шматлікімі ганаровымі граматамі, у тым ліку Ганаровай граматай Губернатара Іркуцкай вобласці. Ён з'яўляецца сябрам Кансультатыўнага Савета па справах беларусаў замежжа пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь. У красавіку 2010 года Указам № 195 Прэзідэнта Рэспублікі Беларусі за асабісты ўклад у захаванне традыцый беларускай культуры Алег Рудакоў быў узнагароджаны медалём Францыска Скарыны.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" абуранае дзеяннямі Следчага ўпраўлення Следчага камітэта Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці, якія нават пры наяўнасці падставаў для ўзбуджэння крымінальнай справы ў дачыненні да сп. Кухты, не мелі ні падставаў, ні маральнага права сваімі дзеяннямі наносіць урон рэпутацыі Алега Рудакова і Іркуцкаму таварыству беларускай культуры.

Управа Міжнароднага грамадскага аб'яднання Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" заяўляе што, Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага і створаны пры ІТБК моладзевы клуб "Крывічы" займаюцца выключна культурніцкай дзейнасцю, у прыватнасці дзейнасцю па адраджэнні і папулярызацыі духоўных і культурных каштоўнасцяў беларускага народа ў Прыбайкаллі, распаўсюджванні і падтрымцы беларускіх нацыянальных звычаяў, рамёстваў, абрадаў і мовы. Згуртаванне "Бацькаўшчына" шчыльна супрацоўнічае з ІТБК ад моманту стварэння Таварыства ў 1996 годзе. Кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" добра ведае асабіста Алега Рудакова і многіх актывістаў ІТБК.

Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" заклікае грамадскасць Беларусі, арганізацыі беларускай дыяспары па ўсім свеце абараніць гонар і годнасць Іркуцкага таварыства беларускай культуры і яе кіраўніка Алега Рудакова і дасылаць адпаведныя звароты ў амбасаду Расіі ў Беларусі і наўпрост у Пракуратуру Іркуцка.

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

**Амбасада Расіі ў Беларусі:**
220053 г. Мінск, вул. Нававіленская, 1А
Тэл: (+375–17) 233-35-90
Факс: (+375–17) 233-35-97
e-mail: rusemb-minsk@yandex.ru

**Прокуратура Кировского района г. Иркутска:**
Российская Федерация, 664011
г. Иркутск, ул. Володарского, 5
Тел.(3952) 25-90-49
Тел/факс (3952) 25-30-07
e-mail: proc5@irmail.ru

**Даведка:**

***Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага*** *было створана Алега Рудаковым у 1996 годзе. Асноўная мэта Таварыства – адраджэнне, захаванне і развіццё духоўных і культурных каштоўнасцяў беларускага народа, распаўсюджванне і падтрымка беларускіх нацыянальных звычаяў, рамёстваў, абрадаў і мовы.*

*Іркуцкая гарадская моладзевая грамадская арганізацыя "Моладзевы клуб "Крывічы" (МК "Крывічы") афіцыйна зарэгістраваная ва Упраўленні Міністэрства юстыцыі Расійскай Федэрацыі па Іркуцкай вобласці 8 верасня 2009 года. Дадзеная арганізацыя займаецца вывучэннем беларускіх святаў, рамёстваў, песень і танцаў.*

*У Іркуцкай вобласці дзейнічае 12 аддзяленняў ІТБК. Акрамя моладзевага клуба "Крывічы", пры ІТБК існуюць 17 творчых фальклорных і танцавальнфых калектываў. У сядзібе Таварыства створаныя бібліятэка беларускай літаратуры і музей-майстэрня "Беларуская хатка", дзе сабраныя ўнікальныя экспанаты з беларускіх вёсак Прыбайкалля. У музеі іркуцкая моладзь займаецца старажытнымі беларускімі рамёствамі: саломапляценнем, сэнсавай вышыўкай, ткацтвам, паясапляценнем, выцінанкай, рэканструкцыяй нацыянальных беларускіх строяў і інш.*

*ІТБК рэгулярна ладзіць адзначэнне старадаўніх беларускіх святаў, такіх як Гуканне Вясны, Камаедзіца, Купалле, Дзяды, Каляды, праводзіць майстар-класы па навучанні беларускім народным танцам, беларускія гістарычныя вечарыны, этнаграфічныя экспедыцыі па беларускіх вёсках Прыбайкалля і інш. Штогод ладзіцца абласны Фестываль-конкурс "Гучы, гоман беларускі", на які з'язджаюцца калектывы з усяго Прыбайкалля.*

*У 2011 годзе Рэгіянальная грамадская арганізацыя "Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага" заняла першае месца ў конкурсе на лепшы нацыянальна-культурны цэнтр Іркуцка, які праводзіўся адміністрацыяй горада.*

# НАВІНЫ КАМПАНІІ "БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!"

## "Будзьма!" выдала першыя візы ў "Краіну цмокаў"

Адмысловы "Цмок-тур", зладжаны грамадскай кампаніяй "Будзьма беларусамі!", адбыўся 1 сакавіка 2012 года ў сталічнай галерэі "Ў". Госці маглі трапіць у культурную вандроўку толькі па запрашальніку-візе ў "Краіну цмокаў". Галоўнай падзеяй вечара стала прэзентацыя турыстычнага сімвала Беларусі, распрацаванага на падставе вобразаў старадаўняга беларускага цмока. Цікавосткай вечару стала прэзентацыя адмысловага відэа-роліка "Краіна Цмокаў. Малюем разам".

У здымках роліка, які можна паглядзець на сайце budzma.org, узялі ўдзел: Ганна Хітрык, Валерыя Валадзько, Аляксандр Памідораў, Андрусь Такінданг, Сяргей Скараход і іншыя.

Новы сімвал — частка камунікацыйнага праекту кампаніі, які спрыяе фармаванню сучаснага культурніцкага коду і візуальнай прасторы Беларусі на падставе нацыянальнага, беларусацэнтрычнага падыходу. Каментуе Алена Макоўская, каардынатар "Будзьма беларусамі!": "У нашым грамадстве назіраецца значная цікавасць да брэндынгу краіны, распрацоўкі сімволікі гарадоў, раённых цэнтраў, мястэчак. Мы




прапанавалі ў якасці турыстычнага сімвала краіны цмока, якога лічым вельмі

харызматычным персанажам айчынай міфалогіі. Пакуль у беларускага "калегі" шатландскай Нэсі няма ўласнага імя, але гэта справа часу".

Праект пачаўся ў кастрычніку 2011 года, калі журналіст Зміцер Навіцкі выправіўся шукаць цмока на Палессе. Пазней гісторыю і характар міфалагічнай істоты абмяркоўвалі ў студыі TUT.BY, на старонках часопіса "Большой", на папулярных моладзевых інтэрнэт-парталах, у сацыяльных сетках. У канцы мінулага года "Будзьма!" павіншавала сваіх сяброў і партнёраў адмысловай паштоўкаў-цізерам, зробленай ў выглядзе яйка цмока вядомым мастаком Міхалам Анемпадыставым. Значны ўклад зрабіла і Юлія Рудзіцкая (рэжысёр анімацыйнага фільма "Будзьма беларусамі!"), якая ў межах праекту стварыла некалькі арыгінальных вобразаў цмока. Менавіта на іх падставе была праведзеная галасаванка на рэсурсах budzma.org і TUT.BY і абраны, на думку чытачоў, найлепшы вобраз.

### Праект "Захапленні", альбо Такімі вы нашых зорак яшчэ не бачылі!

Грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" распачала новы відэапраект "Захапленні". Праект стартаваў 19 сакавіка і працягнецца да канца чэрвеня.

Кожны панядзелак і чацвер на сайце budzma.org з'яўляюцца спецыяльныя рэпартажы пра захапленні беларускіх зорак музыкі — такімі вы іх яшчэ не бачылі!

Праект "Захапленні" — гэта серыя незвычайных рэпартажаў з удзелам самых вядомых беларускіх музыкаў. Тры дзясяткі "фільмаў", унікальных паводле фармату і зместу.

Гэта "рэпартажы з месца дзеяння", відэазамалёўкі пра захапленні цікавых і значных для нашай культуры людзей.

Ні слова пра музыку, пра прафесію – такі фармат праекту. Толькі захапленні. Чалавек, музыка, якога яшчэ ніхто не бачыў проста захопленай асобай.

"Нам падалася ўдалай знаходка забаўляльнага фармату праекту, — кажа Ніна Шыдлоўская, каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!". — Рэпартажы праекту глядзяцца лёгка і захапляльна, яны даступныя і цікавыя самаму шырокаму гледачу. Да таго ж, прадмет абмеркавання — захапленні — цалкам зразумелы большасці.

Магчыма, нехта, зацікавіўшыся захапленнем зоркі, адкрые для сябе і яе творчасць. А нехта, пераймаючы ўлюбёнага артыста, пабачыць новае займальнае хобі, зразумее, што ў нас ёсць шмат магчымасцяў жыцць разнастайна і цікава. Прэзентуючы гэты праект, мы верым, што калі кожны будзе заняты любімай справай, будзе рабіць гэта добра і з душой, мы разам здолеем змяніць жыццё да лепшага. Малюем краіну разам!"



*Гурт "Крамбамбуля" ў праекце "Захапленні"*

Пра свае захапленні ўжо распавялі Уладзімір Пугач, Ганна Хітрык, гурт "Крамбамбуля", Віталь Артыст, Vinsent, Сяргей Пукст, Аляксандр Куллінковіч і Юры Навумаў (гурт Neuro Dubel) і інш. Глядзіце на сайце budzma.org.

### Асобы кампаніі "Будзьма беларусамі!"

На сайце budzma.org з'явіўся новы раздзел – "Асобы". У ім можна пазнаёміцца "ў твар" з выбітнымі асобамі кампаніі "Будзьма беларусамі!", якія рухаюць яе наперад і актыўна прапагандуюць беларускую культуру. Кола ўдзельнікаў праекту вельмі шырокае: у ім узялі ўдзел творцы і бізнэсоўцы, грамадскія дзеячы і рэкламісты, гісторыкі і менеджары.

З'яўленне серыі фотаздымкаў – толькі пачатак дэманстрацыйнага праекту. "Галерэя" будзе пастаянна папаўняцца выявамі ўдзельнікаў кампаніі, якіх насамрэч некалькі соцень. Усе фотаздымкі першай часткі былі зробленыя спецыяльна для праекту вядомым фатографам, амерыканскім беларусафілам Джонам Кунстадтэрам.

*budzma.org*

## ВІНШАВАННІ

# ВІНШАВАННЕ СЯБРАЎ ВЯЛІКАЙ РАДЫ

Маем гонар павіншаваць з Днём нараджэння сябраў Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", якія нарадзіліся ў красавіку і траўні: **Валянціну Арлову (Аксак), Ігара Лялькова, Аляксея Караля, Паўла Мажэйку** (Беларусь), **Хведара Нюньку, Юрася Юркевіча** (Літва), **Алену Глагоўскую** (Польшча), **Алега Рудакова, Сяргея Бандарэнку** (Расія), **Петруся Капчыка** (Украіна), **Марыю Шышчанкову** (Францыя), **Івонку Сурвіллу** (Канада), **Алену Міхалюк** (Вялікабрытанія), **Алену Ліс** (Бельгія). Жадаем Вам моцнага здароўя, доўгіх год жыцця, добрага настрою, здзяйснення ўсіх планаў і задумаў.

У красавіку і траўні наступныя сябры Вялікай Рады святкуюць юбілеі: 7 красавіка – **Рыта Гаціх** (Чэхія), 15 красавіка – **Сяргей Чыслаў** (Беларусь), 14 траўня – **Барыс Стук** (Беларусь), 27 траўня – **Алег Латышонак** (Польшча), 30 траўня – **Вітаўт Кіпель** (ЗША). Шчыра віншуем шаноўных юбіляраў са святам, жадаем выдатнага здароўя, дабрабыту, натхнення ў працы, сонца ды цеплыні.

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*



# БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА АДЗНАЧЫЛІ ДЗЕНЬ ВОЛІ

**25 сакавіка беларусы ў розных куточках свету адзначылі 94-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі – Дзень Волі.**



*Дзень Волі ў Варшаве*

### Варшава

Беларусы Варшавы адзначылі Дзень Волі святочным шэсцем. Раніцай 25 сакавіка яны сустрэліся каля Ронда Вашынгтона, адкуль калона з сарака чалавек з бел-чырвона-белымі сцягамі накіравалася шэсцем да дошкі ў памяць генерала Булак-Булаховіча.

Перад прысутнымі выступілі Анатоль Міхнавец і Зміцер Бародка. Да дошкі былі ўскладзеныя знічы і бел-чырвона-белыя сцягі.

Далей калона рушыла да каралеўскага палаца, дзе ў неба былі выпушчаны паветраныя шарыкі колераў нацыянальнага сцяга Беларусі.

Пазней святкаванне працягнулася ў нефармальнай атмасферы на беразе ракі Вісла.

### Беласток

Беларусы Беласточчыны адзначылі дзень Волі шэрагам культурных мерапрыемстваў.

24 сакавіка ў Тэатральнай акадэміі Беластока прайшоў спектакль “Цацачная крама” ў выкананні ўдзельнікаў гуртка “Гульня ў тэатр”, створанага пры Аб’яднанні на карысць дзяцей і моладзі, якія вывучаюць беларускую мову, “АБ-БА”.

Раніцай 25 сакавіка ў Царкве Агія Сафія прайшоў малебен за беларускі народ.

Асноўнае ўрачыстае мерапрыемства адбылося ў Ваяводскім асяродку анімацыі культуры “Сподкі”. Канцэрт беларускіх песень падрыхтавалі дзеці і моладзь з Беластока і Бельска Падляшскага.Таксама прайшло традыцыйнае ўручэнне бел-чырвона-белых букетаў асобам, якія адзначыліся ў справе папулярызацыі беларускасці на Беласточчыне.

Напрыканцы ўдзельнікі імпрэзы паглядзелі рэпартажы Міколы Ваўранюка пра выбары 2010 года і дакументальны фільм пра Алеся Бяляцкага.

### Санкт-Пецярбург

На дзень Волі беларусы Санкт-Пецярбурга прайшлі з бел-чырвона-белымі сцягамі па Неўскім праспекце.

Увечары адбылася ўрачыстая сустрэча, у якой узялі ўдзел каля 30 чалавек. Акрамя беларусаў, на сустрэчы прысутнічалі рускія, украінцы, якім таксама цікавая тэма Беларускай народнай рэспублікі і нацыянальнага адраджэння беларусаў.

На сустрэчы прагучалі даклады аб гісторыі БНР, а таксама аб гісторыі Расійскай, Аўстра-Венгерскай і Асманскай імперый, чый удзел у Першай сусветнай вайне скончыўся іх развалам і прывёў да першага ў XX стагоддзі параду суверэнітэтаў і стварэння незалежных Беларускай народнай рэспублікі, Украінскай народнай рэспублікі, Рэспублікі Паўночная Інгрыя (на тэрыторыі сучаснай Ленінградскай вобласці), а таксама шэрагу Прыбалтыйскіх і Закаўказскіх дзяржаў.

### Масква

З нагоды Дня Волі 24 сакавіка Маскоўскае таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны зладзіла сустрэчу з Андрэем Скурко, галоўным рэдактарам газеты “Наша Ніва”. Таксама госцем імпрэзы быў Зміцер Вайцюшкевіч.

На сустрэчу, якая адбывалася ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы, прыйшло каля 50 чалавек. Былі студэнты, інтэлігенцыя, бізнэсоўцы — моладзь і людзі старэйшага веку. Гасцей літаральна засыпалі пытаннямі.

Маскоўскіх беларусаў цікавіла ўсё: ці гаворыць “дома” (гэта значыць, на Радзіме) моладзь па-беларуску? Як дае рады сваёй пасадзе Павал Латушка? Як ацэньваць хуткі прысуд Кавалёву і Канавалаву? Чаму сёлета ў Мінску дазволена святкаванне Дня Волі?..

Двухгадзінная дыскусія прайшла на выдатнай беларускай мове, актыўна падпявалі маскоўскія беларусы і Вайцюшкевічу.

### Смаленск

Напярэдадні 25 сакавіка сябры руху “Маладая Беларусь” і беларусы Смаленска правялі шэраг мерапрыемстваў, прымеркаваных да 94-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці БНР.

Актывісты наведалі памятныя месцы ў Смаленску, звязаныя з беларускім рухам. На месцы, дзе зараз знаходзіцца смаленская філармонія, у снежні 1918 года праходзіў з'езд, на якім было абвешчана аб стварэнні БССР. Удзельнікі святочных мерапрыемстваў, якія сабраліся 19 сакавіка каля гэтага памятнага месца, згадалі гістарычныя падзеі тых гадоў, а мемарыяльную дошку ўпрыгожылі бел-чырвона-белымі стужкамі.

20 сакавіка моладзь наведала прыкасцельныя могілкі, дзе пахаваны адзін з заснавальнікаў беларускага каталіцкага руху – ураджэнец Магілёўшчыны епіскап а. Сцяпан (Данісевіч) (1836–1913). Удзельнікі запалілі свечкі, павязалі нацыянальны стужкі, а таксама ўзгадалі жыццёвы шлях беларускага рэлігійнага дзеяча.

23 сакавіка пад небам Смаленска велічна лунаў нацыянальны сцяг у гонар надыходзячага свята і ў знак салідарнасці з віцебскім палітвязнем Сяргеем Каваленкам. Сімвалічна, што гэты сцяг быў перададзены моладзі для вывешвання самім Сяргеем незадоўга да яго арышту.

### Рыга

У гонар Акта 25 сакавіка сябры Латвійскага таварыства беларускай культуры “Сьвітанак” і госці сабраліся ў будынку Латвійскай асацыяцыі нацыянальна-культурных таварыстваў

імя Іты Казакевіч у Рызе, каб адзначыць векапомную для беларусаў дату.

Самай галоўнай падзеяй свята стала беларуская дыктоўка. Світанкаўцы вырашылі падтрымаць агульнанацыянальную беларускую дыктоўку і ў гэты дзень паўдзельнічаць у ёй. Тэкст дыктоўкі – "Беларускую песню" Уладзіміра Караткевіча – чытала дырэктар Рыжскай беларускай асноўнай школы імя Янкі Купалы сп. Ганна Іванэ. Яна пажадала ўдзельнікам ніколі не цурацца роднай мовы, шанаваць і берагчы яе як найвялікшы скарб.

У гэты ж дзень у ЛТБК "Сьвітанак" таксама адбыўся справаздачна-выбарчы сход таварыства. Старшынёй суполкі была пераабраная спадарыня Ірына Кузьміч.

### Вільня

Беларусы Літвы падрыхтавалі да Дня Волі цэлы шэраг імпрэзаў, якія праходзілі ў Вільні на працягу тыдня напярэдадні 25 Сакавіка. Першым мерапрыемствам "Беларускага тыдня" стала ўрачыстае адкрыццё выставы пад назвай "Сны і рэальнасць" мастачкі Таццяны Дзянісавай, якое адбылося 19 сакавіка ў будынку Віленскага гарадскога самакіравання.

У сераду, 21 сакавіка, у Сойме Літвы адбыўся круглы стол, прысвечаны тэме еўрапейска-беларускіх узаемадачыненняў на сучасным этапе.

23 сакавіка ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы і Еўрапейскім гуманітарным універсітэце была прэзентаваная выстава ўнікальных архіўных дакументаў, датычных перыяду Беларускай Народнай Рэспублікі. На экспазіцыі размешчаныя копіі разнастайных зваротаў, рэзалюцый, асабістых дакументаў заснавальнікаў палітычных аб'яднанняў, дакументаў аб беларускім музеі Івана Луцкевіча, дыпламатычных пашпартоў беларускіх палітыкаў, а таксама ўнікальных звестак аб дзейнасці навукоўца Барыса Кіта.

У суботу, 24 сакавіка, у віленскай гарадской Ратушы адбыўся ўрачысты прыём, прымеркаваны да Дня Волі. У ім узялі ўдзел прадстаўнікі беларускай, літоўскай і міжнароднай дэмакратычнай супольнасці, беларускай дыяспары, а таксама выкладчыкі ды студэнты Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта.

Дзень Волі, 25 сакавіка, распачаўся з ускладання кветак і запальвання знічоў у гонар Антона і Івана Луцкевічаў, а таксама іншых беларускіх дзеячаў, чые помнікі знаходзяцца на віленскіх могілках Росы.

З прамовaю выступілі старшыня Таварыства беларускай культуры і сябра Рады БНР Хведар Нюнька, куратар бакалаўрскай праграмы ЕГУ "Культурная спадчына і турызм" Юрась Юркевіч, а таксама гісторык, сябра Вялікай Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Валянцін Голубеў.

Затым адбыўся святочны аўтапрабег пад беларускімі і літоўскімі нацыянальнымі сцягамі. Некалькі дзясяткаў машын праехалі калонай па Вільні, а пасля накіраваліся да памежнага з Беларуссю пункту ў Медніках. Ля прыкардоннага шлагбаума ўдзельнікі выйшлі з аўтамабіляў, каб павітаць і павіншаваць са святам тых, хто едзе ў Беларусь альбо вяртаецца адтуль.



*Дзень Волі ў Вільні. З прамовай выступае Хведар Нюнька*

### Кіеў

Некалькі дзясяткаў чалавек адсвяткавалі Дзень Волі каля помніка Уладзіміру Караткевічу ў Кіеве.

Былі агучаныя: 3-я Устаўная грамата Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і зварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Перад прысутнымі выступілі Старшыня Руху Салідарнасці "Разам" і "Беларускага Цэнтра" ва Украіне Вячаслаў Сіўчык, намеснік Старшыні Руху Салідарнасці "Разам" Алесь Макаеў і іншыя.

Святочную атмасферу стваралі песні вядомых украінскіх музыкаў з гуртоў "Тінь Сонця" і "Веремій". Паэтка Наталка Пазняк-Хаменка дэкламавала цудоўныя вершы.

### Севастопаль

Сябры Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня" штогод, пачынаючы з 1998 года, адзначаюць Дзень Волі. Не стала выключэннем і сёлетняе свята.

25 Сакавіка на плошчы Нахімава ў Севастопалі ўвагу мінакоў прыцягвалі бел-чырвона-белыя сцягі і расцяжкі з надпісамі "Жыве Беларусь!", "Свабода, незалежнасць, дзяржаўнасць", "Свабоду палітвязням Беларусі!".

Падчас выступаў удзельнікаў святочнага пікету прагучалі словы захаплення і маральнай падтрымкі палітычных зняволеных у Беларусі.

Старшыня Севастопальскага таварыства беларусаў імя Максіма Багдановіча "Пагоня" Валерый Барташ зачытаў віншаванні старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, старшыні Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Ганны Сурмач, кіраўніцтва Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Прагучалі вершы беларускіх паэтаў пра бел-чырвона-белы сцяг, герб "Пагоня", духоўны гімн беларусаў "Магутны Божа".

### Прага

94-ю ўгодкі абвяшчэння незалежнасці БНР у Празе адзначылі набажэнствам, урачыстым пасяджэннем, прэзентацыяй новай кнігі Уладзіміра Арлова, канцэртам гурта "Босае Сонца" і фуршэтам.

Свята пачалося Літургіяй з нагоды Дабравешчання Багародзіцы і адмысловым малебнам за Беларусь і беларускі народ з нагоды Дня Волі 25 Сакавіка. Набажэнства адправіў беларускі ўніяцкі святар айцец Андрэй Абламейка.

Пасля адбылося ўрачыстае пасяджэнне, на якім было зачытанае віншаванне Старшыні Рады БНР Івонкі

➲

Сурвіллы.

Падчас свята пісьменнік Уладзімір Арлоў прэзентаваў пражскім беларусам сваю новую кнігу “Пакуль ляціць страла”.

У прыцаркоўнай тэатральнай зале, дзе праходзіла святкаванне, была разгорнутая фотавыстава, якая ілюстравала жыццё пражскіх беларускіх суполак, найперш суполкі імя Францішка Скарыны, за апошнія 15–16 гадоў.

Свята закончылася выступам беларускага гурта “Босае Сонца” і фуршэтам.




*Беларускі сцяг на вежы CN Tower у Таронта*

### Таронта

Канадскія беларусы святкавалі Дзень волі на вежы CN Tower, якая з'яўляецца турыстычным сімвалам горада Таронта.

Старшыня Згуртавання беларусаў Канады Валянціна Шаўчэнка зачытала віншаванне ад старшыні Рады БНФ Івонкі Сурвіллы і кіраўніка КХП-БНФ Зянона Пазьняка.

CN Tower — другая па вышыні вежа ў свеце (553,33 м), а да 2007 яна лічылася самым высокім збудаваннем у свеце.

### Нью-Брансвік

Святочныя мерапрыемствы, арганізаваныя Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем Нью-Джэрсі, Беларуска-Амерыканскім Згуртаваннем “Пагоня”, Беларускім музеем у Нью-Ёрку ды Беларускім Моладзевым Рухам Амерыкі, распачаліся напярэдадні Дня Волі, 24-га сакавіка. Каля будынку штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку быў праведзены мітынг, які сабраў больш за сем дзясяткаў чалавек.

Святкаванне працягнулася на наступны дзень у гатэлі Хаят у Нью-Брансвіку ў форме ўрачыстага прыёму, падчас якога выступілі ансамбль сям’і Казакоў, Сяржук Сокалаў-Воюш, а таксама Лявон Вольскі з Беларусі.

На імпрэзу сабраліся агулам блізу ста чалавек. Бальшыня прысутных — у нацыянальных вышываных кашулях.

Афіцыйную частку мерапрыемства вітальным словам і малітваю распачаў епіскап Віленскі і Нью-Ёркскі Уладыка Серафім. Свае віншаванні ўдзельнікам імпрэзы даслалі Зянон Пазьняк і Івонка Сурвілла. Персанальна павітаў прысутных кангрэсмэн Фрэнк Палонэ, жонка якога родам з Беларусі. Выступілі старшыня Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Нью-Джэрсі Юрка Азарка, старшыня Беларуска-Амерыкансага Згуртавання “Пагоня” Віталь Зайка, каардынатар Беларускага Моладзевага Руху Амерыкі Дзяніс Талпека.




*Дзень Волі ў Нью-Брансвіку*

### Нью-Ёрк

Беларуская грамада ў Нью-Ёрку адзначала 94-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў грамадскім цэнтры пры Кафедральным саборы БАПЦ св. Кірылы Тураўскага. На свята сабралася шмат людзей, прыехала нават моладзь з Філадэльфіі, з Бостана. Панаваў узнёслы, святочны настрой, многія былі ў нацыянальных строях.

Раніцай у царкве адбылося богаслужэнне і малебен за Беларусь. Далей урачыстасці працягнуліся ў грамадскай зале сабора св. Кірылы Тураўскага. Свята арганізавалі Галоўная ўправа Беларуска-Амерыканскага Задзіночання (БАЗА), ягоны Бруклінскі аддзел і Парафіяльная рада сабору.

Урачыстая частка імпрэзы была прысвечаная гісторыі і сучаснай дзейнасці Рады БНР. З дакладам пра падзеі сакавіка 1918 года ў Беларусі, якія прывялі да абвяшчэння незалежнасці, выступіў Сяргей Пятровіч, сябра Галоўнай управы БАЗА і скарбнік дзейнай Рады БНР. Быў зачытаны Зварот старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы.

Пра дзейнасць Рады БНР у эміграцыі распавёў сп. Вячка Станкевіч — намеснік старшыні Рады БНР. З прывітальнымі словамі і віншаваннямі выступілі старшыня Галоўнай управы БАЗА сп. Ганна Сурмач і старшыня Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ сп. Зянон Пазьняк.

Было заслухана выступленне сп. Валянціны Трыгубовіч, якая закранула пытанне пра сённяшнюю ролю Рады БНР.

Затым прайшла канцэртная частка імпрэзы. Яе ўпрыгожылі беларускія мелодыі ў прафесійным выкананні піяністкі Яўгеніі Леў і спявачкі Ірыны Мозылевай. Вершы беларускіх паэтаў чыталі малодшыя госці — Паўлінка Падлеская і Лявон Дудараў.

Завяршылася свята агульным спевам нацыянальнага гімну “Мы выйдзем шчыльнымі радамі” і воклічамі “Жыве Беларусь!”.

### Саўт-Рывер

25 Сакавіка Дзень Волі быў адсвяткаваны ў Саўт-Рыверы (Нью-Джэрсі, ЗША) — гарадку, дзе ад канца XIX ст. жыве вялікая беларуская грамада.

На галоўнай вуліцы горада каля будынка бібліятэкі-музея ўзнялі бел-чырвона-белы сцяг. У прысутнасці прадстаўнікоў гарадской улады і беларуска-амерыканскай грамады мэр горада прачытаў праклямацыю да Дня Беларускай Незалежнасці. У царкве святой Еўфрасінні Полацкай пасля літургіі быў адслужаны малебен за дабрабыт Беларусі.

*Паводле інфармацыі Ігара Станкевіча, Ганны Сурмач, Валерыя Барташа, прэс-групы “Беларускага Цэнтра” ва Украіне, svitanak.lv, smalensk.org , прэс-службаў StudAlliance і Цэнтра “Супрацоўніцтва без межаў”, “Радыё Рацыя”, belmov.org,“Нашай Нівы”, “Радыё Свабода”*

# У Лондане адзначылі тры святы ў адным

Беларусы Вялікабрытаніі адзначылі 24 сакавіка ў Беларускім доме ў Лондане адразу тры святы – Дзень Волі, 65-годдзе заснавання Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі і 70-гадовы юбілей вядомага беларусіста, шматгадовага старшыні Англа-Беларускага таварыства Джыма Дынглі.

На сённяшні дзень ЗБВБ з'яўляецца адной з найстарэйшых і адной з самых уплывовых беларускіх суполак не толькі на еўрапейскім кантыненце, але бадай што і ва ўсім свеце. Яе па праве можна лічыць дыяспарастваральнай арганізацыяй. Згуртаванне аб'яднала ў сваіх шэрагах найбольшую колькасць беларусаў у Вялікабрытаніі, працэсы, якія адбываліся ў Згуртаванні ў розныя часы, уплывалі на жыццё ўсёй беларускай грамады ў краіне.

Ахвярнасці сябраў Згуртавання, асабліва яе стваральнікаў, можна толькі шчыра здзіўляцца. Чаго варты толькі той факт, што Беларускі дом у Лондане, дзе праходзіла святкаванне 65-ці гадовага юбілею, быў набыты беларусамі ў 1946 годзе без пазыкаў і крэдытаў, проста на сяброўскія складкі!

Галоўнае, што Згуртаванне прайшло выпрабаванне часам, і сёння застаецца адной з самых актыўных беларускіх арганізацый. Штогод сябры Згуртавання арганізуюць святкаванне беларускіх нацыянальных і традыцыйных святаў, ладзяць вечарыны з удзелам знакамітых людзей з Беларусі, заўжды актыўна рэагуюць на ўсе падзеі, якія адбываюцца на Радзіме, распаўсюджваюць інфармацыю пра Беларусь у брытанскім грамадстве.

Святочнае мерапрыемства 24 сакавіка было ўрачыстым і шматлюдным. Прысутных прывітала старшыня Згуртавання Алена Міхалюк. Зварот Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы зачытаў Павал Шаўцоў.



*Выступае Алена Макоўская*

Апостальскі візітатар для беларусаў-каталікоў замежжа айцец Аляксандар Надсан прачытаў малітву і выступіў з кароткім прывітальным словам.

У сваім выступе айцец Надсан адзначыў, што Дзень Волі – гэта перадусім свята надзеі. Нягледзячы на палітычныя калізіі, штогод новыя і новыя беларусы, многія з якіх нарадзіліся пры цяперашняй сімволіцы, становяцца пад бел-чырвона-белы сцяг БНР і бяруць за жыццёвы арыенцір яе ідэалы.

Пра лёсы некаторых заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі распавёў сябра Рады БНР Мікола Пачкаеў.

На свяце прысутнічалі і госці з Мінска — кіраўнік Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алена Макоўская і старшыня Рады Ніна Шыдлоўская.

Алена Макоўская павіншавала сябраў Згуртавання беларусаў у Вялікабрытанні з юбілеем і выказала падзяку за шматгадовую супрацу.

"Згуртаванне Беларусаў Вялікабрытаніі – прыклад таго, як мы можам згуртавацца разам дзеля адной супольнай мэты, пакінуўшы ў баку рознагалоссі і прыватныя інтарэсы. Калі б вы не стварылі сваю Беларусь тут, за мяжой, нам у метраполіі не было б на што абапірацца", – адзначыла Алена Макоўская. Паводле яе словаў, дзейнасць беларусаў Вялікабрытаніі была прыкладам як для Згуртавання "Бацькаўшчына", так і для грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!".

У апошняй частцы імпрэзы прысутныя павіншавалі з 70-годдзем Джыма Дынглі. Пра ягоныя заслугі як даследчыка, папулярызатара беларускай культуры сярод замежнікаў распавялі Караліна Мацкевіч і прафесар Арнольд Макмілін.

*Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

# У Тэль-Авіве прайшоў першы ў гісторыі Ізраіля беларускамоўны канцэрт

Першы ў гісторыі Ізраіля беларускамоўны канцэрт сучаснага беларускага выканаўцы адбыўся 28 сакавіка ў Тэль-Авіве. Зміцер Вайцюшкевіч правёў у клубе "ПраРок" кватэрнік, выканаўшы свае найлепшыя песні.

Кватэрнік аказаўся больш чым знакавым. Па-першае, сучасная беларуская музыка ў Ізраілі ніколі да гэтага не гучала. Па-другое, у клуб прыйшлі беларускамоўныя ізраільцяне. Па-трэцяе, гэты кватэрнік у клубе можа стаць добрым пачаткам для культурнага дэсанту беларускіх музыкаў.

Гледачы цёпла сустракалі беларускага выканаўцу. Большасць песняў былі ім добра вядомыя. Многія пасля канцэрту прызналіся, што было вельмі прыемна чуць у цэнтры Тэль-Авіва беларускую гаворку.

*Барыс Штэрн, budzma.org*

# У Вене пачаліся беларускія набажэнствы

У сталіцы Аўстрыі па просьбе мясцовых беларусаў архібіскуп Вены, кардынал Хрыстафор Шонбэрн заснаваў беларускае грэка-каталіцкае душпастырства ў гонар Хрыста Чалавекалюбцы. Душпастарам прызначаны айцец Андрусь Абламейка. Першыя беларускія набажэнствы адбыліся на пачатку сакавіка.

"Кожны панядзелак а 18-й гадзіне мы служым Акафіст да Хрыста Чалавекалюбцы. Літургію мы пакуль будзем служыць кожную першую нядзелю месяца, – паведаміў айцец Абламейка. – Вена – вельмі важны для беларускай царкоўнай гісторыі горад. Некалі тут захоўваліся мошчы святога Язафата да іх перавозкі ў Рым. Адрас царквы Святой Барбары – Postgasse, 8. Запрашаю ўсіх ахвочых слухаць слова Божае па-беларуску".

*Паводле "Радыё Свабода"*

# Станіслаў Клімаў (1938-2012)



7 красавіка 2012 г. пасля доўгай хваробы памёр Станіслаў Клімаў – адзін з тых, хто стаяў ля вытокаў адраджэння беларускасці ў Латвіі.

Станіслаў Клімаў нарадзіўся 15 ліпеня 1938 года ў вёсцы Прыбор Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці.

Пасля службы ў арміі ў 1960 годзе ён прыехаў у Рыгу і паступіў на механіка-машынабудаўнічы факультэт Рыжскага політэхнічнага інстытута.

Пасля інстытута С. Клімаў працаваў у розных галінах прамысловасці Латвіі. З іх шмат гадоў адпрацаваў канструктарам у Спецыялізаваным канструктарскім бюро вакуумных пакрыццяў – адным з флагманаў латвійскай індустрыі (цяпер акцыянернае таварыства “Sidrabe”), дзе працягваў працаваць і пасля выхаду на пенсію.

З 1992 па 1994 год С. Клімаў быў намеснікам старшыні таварыства беларускай мовы “Прамень”. Шмат гадоў да апошніх дзён быў сябрам Рады Латвійскага таварыства беларускай культуры “Сьвітанак”. Але той нівай, на якой самааддана рупіўся Станіслаў, была папулярызацыя беларускай песні.

Станіслаў Клімаў удзельнічаў у стварэнні першага гурта беларускай песні ў Латвіі ансамбля “Надзея”. Яго голас гучаў у складзе ансамбля “Світанак”, а апошнім яго клопатам стаў гурт беларускай песні “Вытокі”, музычным кіраўніком якога ён быў ад пачатку стварэння калектыву.

У рэпертуары “Вытокаў” цэлы вянок песень, музыку якіх напісаў самадзейны кампазітар Станіслаў Клімаў. Але песні музыканта-самародка спяваюць не толькі “Вытокі”, іх выконваюць самадзейныя беларускія гурты па ўсёй Латвіі.

Калі адыходзіць з жыцця чалавек, на ўспамін застаюцца ягоныя справы. А пасля Станіслава засталіся яшчэ і яго песні. Хай доўга-доўга гучаць яны на розныя галасы нашай данінай памяці гэтаму таленавітаму чалавеку, нашаму сябру.

*Паводле svitanak.lv*

***

**Управа Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” выказвае шчырыя спачуванні родным Станіслава Клімава і ўсім, хто яго ведаў, з нагоды цяжкай страты. Рай светлы яго душы!**

# Спачуванні Аляксею Марачкіну

Управа Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” выказвае шчырыя спачуванні сябру Вялікай Рады, кіраўніку МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” ў 2004-2009 гг. Аляксею Марачкіну ў сувязі з цяжкай стратай – смерцю жонкі Ірыны.

Ірыне Марачкінай 3 красавіка раптоўна стала кепска. Яна памерла ў той жа дзень літаральна на руках у мужа.

Усё жыццё Ірына Марачкіна была асветніцай: працавала метадысткай Міністэрства асветы, сакратаром Таварыства беларускай мовы, потым намеснікам старшыні ТБМ, сакратаром Управы. Яе інтэрв’ю з шматлікімі дзеячамі культуры друкаваліся ў газетах “Наша слова”, “Народная Воля”.

Шаноўны Аляксей Антонавіч, хай Бог дасць сілы перажыць гэтае гора. Смуткуем разам з Вамі!

*Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”*

# Беларускі каляндар памятных дат на травень 2012 года

1 траўня – 90 год таму, у 1922-м, нарадзіўся Алесь Салавей (сапр. Альфрэд Радзюк, на эміграцыі Альберт Кадняк; 1922–1978), паэт, дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Аўстраліі.

3 траўня – 290 год таму, у 1722-м, нарадзіўся Станіслаў Радзівіл (1722–1787), дзяржаўны і вайсковы дзеяч Вялікага Княства Літоўскага.

3 траўня – 135 год таму, у 1877-м, нарадзіўся Антон Грыневіч (1877–1937), збіральнік музычнага фальклору, выдавец, педагог, кампазітар.

8 траўня – 67 год таму, у 1945-м, у Берліне падпісаны Акт аб капітуляцыі Нямеччыны — скончылася Другая сусветная вайна ў Еўропе.

12 траўня – 120 год таму, у 1842-м, памёр Валенці Ванькові ч (1800–1842), мастак.

13 траўня – 90 год таму, у 1922-м, нарадзіўся Леанід Кароль (1922–1998), грамадскі дзеяч у Вільні.

15 траўня – 130 год таму, у 1882-м, нарадзіўся Уладзіслаў Галубок (станцыя Лясная, цяпер Баранавіцкі р-н), пісьменнік, рэжысёр, акцёр, тэатральны дзеяч, мастак.

20 траўня – 110 год таму, у 1902-м, нарадзіўся Язэп Пушча (сапр. Плашчынскі Язэп; 1902–1964), паэт.

23 траўня – 45 год таму, у 1967-м, у Чыкага (ЗША) памёр Мікола Дзямідаў (1888–1967), вайсковы і грамадска-палітычны дзеяч.

23 траўня – 20 год таму, у 1992-м, у Гданьску (Польшча) адбыўся ўстаноўчы сход Беларускага культурнага таварыства “Хатка”.

25 траўня – 105 год таму, у 1907-м, у Вільні адбыўся з’езд настаўнікаў, на якім створаны Беларускі настаўніцкі саюз.

25 траўня – 95 год таму, у 1917-м, памёр Максім Багдановіч (1891–1917), паэт, перакладчык, крытык.

25 траўня – 25 год таму, у 1987-м, у Кліўлендзе (ЗША) памёр Яўген Калубовіч (на эміграцыі КахаНоўскі, 1912–1987), гісторык, грамадска-палітычны дзеяч, літаратуразнавец, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

26 траўня – 35 год таму, у 1977-м, памёр Янка Пачопка (1890–1977), паэт, фалькларыст.

31 траўня – 20 год таму, у 1992-м, у Нью-Джэрсі памёр Васіль Стома (1911–1992), пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**Беларусы ў свеце**
№3-4 (120), сакавік-красавік 2012

Інфармацыйны бюлетэнь МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”. Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.
Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – Т. Печанко
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906,
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb@tut.by

тэл./факс (+375 17) 200-70-27